Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# ГОЛАС ПРАВАСЛАЎНАГА БЕЛАРУСА

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9—15.

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 10 — 2 штодня апрача сьвят.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
за 1 год . . 5 зл. —
„ 6 месяцаў 3 зл. —
„ 3 месяцы . 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК:
на вокладцы 30 гр., насярод тэксту 25 гр., на апошняй староньцы 20 гр. за радок пэтыта.

№ 2. Вільня, Сьнежань 1931 г. Год I.

## ЗЬМЕСТ:

# ГОЛАС ПРАВАСЛАЎНАГА БЕЛАРУСА

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ

№ 2. Вільня, Сьнежань 1931 г. Год I.




## Без Народу — без Хрыста!

„Цѣною (крови Христа) куплені есте: не будите рабы человѣком. (Кор. I-24).

„Вниде же сатана во Іуду... И шед глагола архіереом и воеводам, како Его предаст им. И возрадовашася и совѣщаша ему сребреники дати; и исповѣда и искаше удобна времене, да предаст Его им *без народа*". (Луки XXII-3-6).

„Бысть же и пря в них, кій мнится и их быти болій. Он же рѣче им: Царіе язык господствуют ими, и обладающіи ими благодѣтеле нарицаюцца. Вы же не тако: но болій в вас, да будет яко мній; и старѣй, яко служай". (Луки XXII-25-26).

«Царква ёсьць Народ, аб'яднаны з сваім Епіскапам» — з сваей Іерархіяй, кажа сьв. Кіпрыян. Пасланьне Ўсходніх Патрыярхаў называе Народ «хранителем благочестія».

І недарма-ж Апостал Лука разказывае, што Іуда, каб прэдаць архіерэям і ваяводам Хрыста, шукаў „удобна времене" — без Народу...

І так, як было тады ў Іудэі, бывае заўсёды там, дзе Іерархія адрываецца ад Народу, і—тады, калі вязі, еднаючыя Народ з яго Епіскопам, якія ёсьць сутнасьцю Царквы, рвуцца... Тады зараз-жа няўхільна прыходзіць да «архіерэяў і ваяводаў» той ці іншы Іуда, каб прэдаць Хрыста — жывы, творчы Дух Царквы.

Таму няма для ўсялякай улады, а асабліва-ж для Іерархіі Царкоўнай горшай, страшнейшай небясьпекі, як спакуса пе-

ратварыцца ў самамэту, паставіўшы сабе задачу сабеслужэньня, разглядаючы народ, толькі як належнае дзеля гэтага срэдства — прыладу...

Уся векавая гісторыя Праваслаўнай Царквы ў Беларусі ёсьць як быццам жывая ілюстрацыя да гэтага тэксту з Эвангелія Лукі.

Праз гэтыя «шырокія брамы» сабеслужэньня ўвайшоў калісьці да старадаўніх архіерэяў і ваяводаў Праслаўнай Беларусі Іуда вуніяцкай спакусы, разарваўшы векавечную сувязь, еднаўшую Народ з яго Іерархіяй.

Але-ж — тая-ж сама небясьпека жыве ў нашым царкоўным жыцьці дагэтуль, пакіненая яму ў спадчыну ў тым царкоўным ладзе, які панаваў праз два вякі на Усходзе дый давёў там Царкву да нячуванага заняпаду...

Наш Народ — пры ўсей яго векавой цемры, духоўным адзіноцтве і безбароннасьці — споўніў сьвята, наколькі змог, свой абавязак — быць «хранителем благочестія»: Беларускі Народ у большасьці сваей захаваў сваю старадаўнюю веру.

Цяпер перад яго душой, распаліўшайся вагнём нацыянальнага самапачуцьця, адчыняецца новы ўласны гістарычны шлях, раскрываюцца новыя высокія і цяжкія задачы.

У сваей дзедаўскай Царкве народ хоча і павінен знайсьці нявычарпаную крыніцу, з якой ён будзе чарпаць сілы на тое, каб тварыць сваё ўласнае жыцьцё, новае жыцьцё, дастойнае тэй Сьвятой Веры, якую ён пранёс, як найдаражэйшы скарб, праз усю сваю гісторыю.

І першым крокам на гэтым новым гістарычным шляху нашага народу да поўні яго духоўна-нацыянальнага жыцьця, няўхільным варункам пасьпеху ў выкананьні гэтай цяжкой задачы — зьяўляецца аднаўленьне ў поўні таго «аб'еднаньня Народу з сваім Епіскапам», якое складае істоту Царквы...

І тут трэба, каб з свайго боку і наша Іерархія таксама, як Народ, сьвята і цалком зьдзейсьніла ў поўнай меры свой гістарычны абавязак перад Праваслаўнай Царквой і Беларускім Народам.

Аб сутнасьці гэтага абавязку выразна кажа другі з пастаўленых намі на чале гэтых радкоў тэкст з Эвангелія таго-ж Апостала, дапаўняючы першы. У ім указана тая агульная норма, якой павінна падпарадкавацца ўсялякая ўлада, усялякая іерархія, калі ня хоча, каб парвалася рэлігійная су-

вязь, лучачая яе з народам, дый, каб у выніку гэтага той ці іншы Іуда ня згубіў у ей Жывога Хрыста дый не давёў гэтым Царквы да канчальнага заняпаду...

Тлумачачы гэты тэкст Эвангеліста, ведамы праваслаўны багаслоў еп. Антонін кажа, што ў ім пастаўлена проблема *новага — хрысціянскага — тыпу ўлады,* дый што Эвангэліем асьвяшчаецца толькі такая форма грамадзкага жыцьця, пры якой да ўпраўленьня заклікаецца сам Народ. Сутнасьць усіх конституцыяў, наагул *спароджаных духам хрысьціянства* — у гэтым *служэбным* характэры ўсялякае ўлады. Стары тып, яшчэ такі жывы і ў нашыя дні, асабліва на Усходзе, жывы, нажаль, яшчэ ў значнай меры і ў нашым, нават царкоўным, жыцьці, гэта — тып паганскі. Зьмест гэткага тыпу ўлады — у поўным панаваньні чалавека над чалавекам, ў валаданьні маючага ўладу над сабе падобнымі, у абагатвараньні асобы пануючага — зямнога цара ці «князя царквы»...

Такая паганская сувязь улады, іерархіі з народам, дзе народ існуе для валадаючага, а той для самога сябе, — засуджана Хрыстом і гісторыяй назаўсёды.

Той *Цар цароў,* прыход Якога на зямлю мы толькі што сьвяткавалі, даў нам у Сваей Асобе ўзор новай хрысьціянскай улады. Гэты наймагутнейшы ў сьвеце *Цар* — Сам аддаў Сябе на сьмерць, каб Сваей крывёй, Сваім Духам паслужыць апошнім беднякам, мытарам і рабам. І гэтыя рабы сілай Яго Духа заваявалі ўвесь сьвет. Хрыстос даў нам прыклад такога *Сьвяшчэньніка,* які толькі сілай Свайго Духу, ня маючы ніякай улады, ні сілы прынукі, ніякай аховы, ніякага храму, ні залатых рызаў — аднэй толькі няпераможнай *сілай праўды* Сваей навукі і высокага прыкладу Свайго жыцьця перамог увесь сьвет, усе паўстаўшыя сьпярша проці Яго сілы на зямлі...

Хай-жа гэты прыклад служыць узорам і нашай Іерархіі. Непатрэбны, прынамсі неканешны, ёй усялякія вонкавыя адзнакі ўлады; шкодны, прынамсь небясьпечны, для яе ўсялякія падсобныя меры прынукі для панаваньня над душамі веруючых, для еднаньня яе з Народам. Зусім даволі будзе для будаваньня Царквы, — супольнымі сіламі ў поўным аб'еднаньні з Народ м — калі ў падставу сваей улады над душамі паложыць яна тую праўду навукі і прыкладу Хрыстова, якой перамог — без ніякай іншай сілы — увесь сьвет Сам Хрыстос.

Толькі гэтая *Ісьціна Хрыстова* сама і наймацней зьвяжа

Іерархію з Народам неразрыўнай сувязяй Царквы, дасьць непераможную для ворагаў звонку, для слабасьці знутры апору і сілу — як Народу таксама і яго Іерархіі. І гэтая сіла, сама сабой зьбіраючая і вяжучая Народ і Іерархію ў непарушную, як скала, Царкву, і ёсьць тое, што завецца ў Праваслаўі *Саборнасьцяй*. Гэтым і толькі гэтым пераможам!

Дык хай-жа ў Новым Годзе хаця-ж толькі распачнецца ў нашым царкоўным жыцьці адбудова гэтай Саборнасьці! Рашучым крокам да яе павінна зьявіцца безадкладнае скліканьне *Сабору*.

*Рэдакцыя „Голасу Праваслаўнага Беларуса“ шчыра вітае ўсіх добрых прыхільнікаў нашае часопісі з Сьвятамі Божага Нараджэньня і з наступаючым Новым Годам. Горача жадаем ім дый усяму Беларускаму Народу насамперш таго высокага ўздыму рэлігійнага духу — сагрэтага жывым агнём чулай і творчай нацыянальнай душы, без якога ня можа быць асягнена тая вялікая мэта царкоўна-нацыянальнага адраджэньня, служэньне якой наша часопісь ставіць сваей першай і галоўнай задачай.*

*РЭДАКЦЫЯ.*

# Аб Саборы і саборнасьці Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

**Цяжкое палажэньне Царквы. — Акцыя на шляху да Сабору. — Галоўныя задачы Сабору. — Саборнасьць.**

Праваслаўная Царква ў Польшчы дагэтуль яшчэ знаходзіцца ў стане цяжкога змаганьня за асноўныя падставы свайго жыцьця і разьвіцьця, амаль — не за правы і магчымасьці самага свайго існаваньня...

Змаганьне ідзе на два фронты — вонкавы і ўнутраны: з ворагамі Царквы і з неразумнымі Яе сынамі.

Праваслаўная іерархія. як можа дый умее, бароніць царкоўную справу на абодвух фронтах. Яна граміць сэктантаў, прэдае анатэме вуніятаў; яна протэстуе проці захватаў і разборкі дамоў Божых; яна нэрвова рэагуе на недахопы органаў царкоўнага ўпраўленьня; яна жадае скліканьня Сабору, падрыхтоўвае яго, але неяк марудна заклікае да гэтай акцыі міран.

Ворагаў звонку з усіх бакоў ды недахопаў шмат. Але мы зробім небясьпечную памылку, калі будзем бачыць дый вінаваціць у цяжкім палажэньні нашай Царквы толькі гэтых ворагаў.

Не. — Для сільнага, крэпкага ўнутры жывога організму, якім павінна быць Царква, ніякія ворагі ні звонку ні знутры—нястрашны. Наадварот — усялякая жывая, здаровая, веручая і сваю жыцьцёвую мэту і місію істота—індывідуальная ці грамадзкая, а тым больш істота найвышэйшага — духоўнага — парадку, якой ёсьць Царква, сама шукае ворагаў, — каб іх перамагчы, уцягнуць у сваё жыцьцё, заразіць сваей жыцьцёвай мэтай—ідэяй, ператварыць з ворага ў прыхільніка ды супрацоўніка, скіраваць да супольнага Бога.

Для праўднай Царквы Божай —нястрашны „брамы пякельныя“. Пылаючы любоўю да бліжняга і веруючы ў сілу сваей навукі, лекар не баіцца, але сам шукае хворых. Сьветач не баіцца цемры, але ўжо адным сьвятлом сваім перамагае цемру...

Таму — першым варункам пасьпешнай барацьбы з усімі шматлікімі відамі пагражаючага нашай Царкве зла ёсьць украпленьне яе ўнутранай сілы і здароўя, — веры, любові і сьвятла, — ўнутры яе.

Для гэтай першай і найважнейшай задачы павінен быць створаны адпаведны рэлігійны настрой і падыход, у аснове якога ляжыць акт *самапазнаньня і пакуты*.

Толькі такое рэлігійнае прызнаньне перад Богам і уласным сумленьнем таго, што за той цяжкі стан, у якім апынулася і ўсьцяж тры-

вае наша Царква, вінныя мы самі ўсе, а тыя, хто пастаўлены вышэй, каму больш дадзена, тыя адказываюць найбольш, толькі гэта створыць здаровую непарушную маральна-рэлігійную падставу для ўсей акцыі нашага царкоўнага адраджэньня.

А ўсьцяж паўтараныя скаргі на вонкавыя перашкоды, усьцяж атручываючая нас знутры ненавісьць да ворагаў ёсьць толькі адзнака нашай слабасьці дый ніколі ніякай сілы ў нас ня створыць.

---

Да такой вялізарнай супольнай мэты, як адраджэньне нашага царкоўнага жыцьця, павінны быць пакліканы — у шчырым і магутным уздыме веры, волі й любові, ўзаемнай пашаны і даверу — усе жывыя сілы Царквы, як царкоўнай Іерархіі, так і Царкоўнага Народу. Бо-ж адзіна магчымае аздараўленьне ёсьць *самааздараўленьне*.

Трэба, каб усе — ад вышэйшага епіскапа да прыходзкага сьвяшчэньніка, ад высока-адукаванага інтэлігента да шэрага селяніна-сярмяжніка — усе пачулі сябе прызванымі і адказнымі дзеячамі царкоўнага адраджэньня, каб усе „прыобчыліся“ да ўсенароднага ўздыму царкоўна-грамадзкай ахвярнасьці.

І так заўсёды бывала ў доўгай гісторыі нашай Праваслаўнай Царквы. Заўсёды ў часы цяжкога ліхалецьця ратунак і адраджэньне прыносіла з сабой тая галоўная жывая ідэя, якая ляжыць у аснове Праваслаўя, — ідэя С а б о р н а с ь ц і.

Таксама і цяпер думка ўсіх храрэючых за лёсы нашай Царквы людзей усьцяж дамагаецца чымхутчэйшага скліканьня Сабору.

Думка аб скліканьні Праваслаўнага Сабору ў Польшчы спарадзілася некалькі гадоў назад. Трэба ведаць, што жыцьцё Праваслаўнай Царквы ў Польшчы рэгулююць дагэтуль вельмі няўдалыя, т. зв. „Тымчасовыя Правілы“ 1922 г., апрацаваныя Міністэрствам Вызнаньняў без паразуменьне з праваслаўнай іерархіяй (?). Дык усьцяж насоўвалася патрэба замяніць гэтыя тымчасовыя „Правілы“ пастаянным Статутам, рэгулюючым — як вонкавае палажэньне Царквы таксама і яе ўнутраны лад і жыцьцё. Асабліва настойлівай стала гэтая патрэба ад 1924 г., калі Праваслаўная Царква ступіла на шлях аўтакэфальнага ладу — згодна з „Томосам“ Константынопальскага Патрыярха, выданым 13 лістападу 1924 г. Зразумела, што ўсе гэтыя статуты павінны быць прыняты найбольш аўтарытэтным органам Царквы — Памесным Саборам.

Аднак — першыя конкрэтныя крокі да скліканьня Сабору, былі зроблены толькі ў 1929 г. Сьв. Сінодам быў апрацаваны праект скліканьня Сабору, выданы быў загад зрабіць выбары прэдстаўнікоў на Сабор — у парадку т. зв. 4-ступенных выбараў (сьпярша ў прыходскіх, пасьля — у благачынскіх, павятовых і эпархіяльных сходах).

Але, калі адбыліся ўжо блізу ўсюды гэтыя выбары далейшая акцыя была прыпынена.

Прычына прыпыненьня выстаўлялася тая, што апрацаваная Канцэлярыяй Сьв. Сіноду праграма працаў Сабору ня была распрацавана з належнай поўняй.

Тады, ужо ў 1930 г., вышэйшая царкоўная ўлада — у паразуменьні з урадам — стварыла спэцыяльную камісію ў складзе праваслаўных япіскапаў і вышэйшых прадстаўнікаў ураду—для апрацаваньня больш поўнай програмы працаў Сабору.

На вясну 1930 г. програма была ўжо апрацавана дакладна. Але тады высунулася зусім натуральная думка — аб неабходнасьці ўсю далейшую акцыю вясьці ў супрацоўніцтве з праваслаўнай грамадзкасьцю, а першым чынам — перадаць гэтую програму на падробязны і дакладны разгляд спэцыяльнаму—*Прадсаборнаму Сабраньню.* У зьвязку з гэтым — 30 траўня 1930 г. выданы быў дзяржаўны акт, які павінен мець гістарычнае значэньне ў жыцьці Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, гэта — рэскрыпт п. Прэзыдэнта Рэспублікі аб скліканьні Прэдсаборнага Сабраньня, а ўсьлед за ім і Сабору.

Здавалася, былі ўсе падставы дзеля таго, каб цешыцца так рашуча зрушанай з месца справай. Рэскрыпт 30 траўня выклікаў вялікі ўздым духу сярод праваслаўнага насяленьня, спарадзіў самыя бадзёрыя надзеі.

Аднак-жа, час ішоў, а да скліканьня Сабору ўсё нияк не даходзіла. Уздым спадаў. надзеі гасьлі...

Паглядзім цяпер, як працуе дый што зрабіла гэтае Прэдсаборнае Сабраньне.

Прэдсаборнае Сабраньне — у складзе 30 сяброў (у тым ліку 17 міран) было склікана ў першы раз 2 ліпня 1930 г. Пасьля агульнай прадуступнай дыскусіі яно падзялілася на 6 комісіяў, прычым кожнай комісіі даручана было апрацаваць рад дакладаў па розным аддзелам і пытаньням прадстаўленай на разгляд Сабраньня праграмы працаў Сабору.

Здавалася, што так плянова падзеляная і організаваная праца, неадкладнасьць якой ня будзіла сумліваў, пойдзе шпарка і пасьпешна.

Але праходзілі месяцы — аб працах комісіяў было нешта нячутна, Толькі ў лістападзе 1930 г. адбылася другая сэсія Прэдсаборнага Сабраньня (у няпоўным складзе), прычым высьветлілася, што шмат дакладаў яшчэ не апрацавана... Так бязьдзейна прайшоў — страчаны для сьвятога дзела адраджэньня нашае Царквы— яшчэ цэлы год зьлішкам — Прэдсаборнае Сабраньне ня склікалася. І толькі ў пачатку сьнежня 1931 г. адбыліся паседжаньні 2 комісіяў — І-ай — у справах рэлігійных і IV-тай — духоўнага ўзгадаваньня. Такая нячуваная, недапушчальная, каб не сказаць--праступная, павольнасьць у працах Прэдсаборнага Сабраньня не магла ня выклікаць цяжкага разчараваньня ў шырокіх колах праваслаўнага грамадзянства. Многія цалком страцілі веру ў Сабор — не спадзяючца ўжо яго скліканьня наагул. Аб незразумелых прычынах такой павольнасьці, компромітуючай усю акцыю па скліканьню Сабору, ня спыняючайся нават перад нейкім „сабатаваньнем" выразнай волі і фармальнага абецаньня, выражаных у рэскрыпце Галавы Гаспадарства, ходзяць розныя чуткі... Кожны тлумачыць сабе такі стан рэчаў на свой копыл — з яўным і шкодным ушчэрбам для высокага аўтарытэту адказных за гэта прэдстаўнікаў царкоўнай і дзяржаўнай уладаў...

Гледзячы на ўсё гэта, мімаволі ахоплівае душу няпераможны сум... — Царкоўнае жыцьцё ўсьцяж застаецца ненармальным, няўрэгуляваным, а адзіная надзея наша на тое, што гэта ўсё паправіць Сабор — бо-ж толькі Сабор можа гэта зрабіць — адыходзіць усё далей... Найбольш малаверныя з нас пачынаюць думаць, што ратунку ўжо ніякага няма, што мы — ахвяры гісторычных здарэньняў, што пануючы над намі лёс — няўхільны, няпераможны, што нам засталося толькі „зьмірыцца", спусьціць рукі, пакінуўшы наша жыцьцё, нашу Царкву на волю здарэньняў.

Але — ці-ж можна так адносіцца да сябе, да сваей душы, да сваей будучыны, да ўсяго, што найдаражэй для душы да Царквы Божай?!

Такія настроі маладушша — жудасная спадчына, якую пакінула ў нашых душах вялікая расейская разруха. З такім станам душы трэба змагацца з усіх сілаў. Трэба разбудзіць у сябе волю да жыцьця, трэба высунуць на яркае сьвятло ўсе тыя духоўныя вартасьці, якія таіць у сябе наша душа, а сярод іх — найдаражэйшую цэннасьць нашай сьвятой Веры Праваслаўнай, у лоне якой мы знойдзем усе крыніцы, патрэбныя для нашага духоўнага адраджэньня.

Магутныя сілы дзеля гэтага духоўнага адраджэньвя мы знойдзем і ў новым вольным нацыянальным самапачуцьці і самасьведамасьці, якія — поруч з неразрыўнымі вязямі супольнай веры — таксама зблізяць дый зьвяжуць нас з нашым заўсёды жывым, заўсёды носячым жывога Бога ў сябе, хаця й не заўсёды сьведамым гэтага — Народам.

Рэлігійнае і культурна-нацыянальнае багацьце, атрыманае ў спадчыну намі па нашых дзядох ды прадзедах, гэта — скарб вялізарнай вартасьці. Але гэтага ня бачаць, ня чуюць, ня ведаюць, як належыць, у тым сталым стане настрашанага нячувана жудаснымі здарэньнямі нядаўніх гадоў малаверу і маладушша, у якім прэбываюць многія з нас. Трэба верыць у гэты падараваны нам Богам, сабраны нашай гісторыяй скарб праўдзівай Хрыстовай Веры, а тады — па веры нашай, як спараліжаванаму ў эвангельскай прытчы, дасца нам і сцаленьне. Бо-ж — толькі з веры спараджаецца ў душы сіла і воля. Дык будзем-жа верыць, што якраз на Саборы праявіцца ў нас усіх гэтая, спароджаная ў нас воля да быцьця, дый што тады і на Саборы выявіцца прысутнасьць Духа Сьвятога, Які, кіруючы саборным розумам нашае Царквы, вывядзе яе на шлях сьветлага адраджэньня.

А таму — дамагаймося кожны паасобку дый усе грамадой, дзе і як хто можа, каб чым хутчэй быў скліка765 гэты Сабор, які павінен прынесьці нашай Царкве, а з яе лона і нам, беларускаму народу ў Польшчы, — гэтае адраджэньне.

---

Трэба-ж цяпер высьвятліць сабе, што-ж можа й павінен конкрэтна зрабіць Сабор, якая яго галоўная задача.

Сярод розных пытаньняў, якія апрацоўваюць паасобныя камісіі Прэдсаб. Сабраньня, найвялікшае значэньне маюць два: *аб вонкавым палажэньні Царквы ці адносінах Яе да дзяржавы і аб унутраным ладзе Царквы.* Трэба сабе ўсьведаміць, што апрацаваньне т. зв. вонкавага статуту, ці закону, рэгулюючага ўзаемныя стасункі паміж Царквой

і дзяржавай, у вельмі малой меры можа падлягаць компэтэнцыі Сабору. Гэта — галіна пераважна, калі ня выключна, дзяржаўнай улады. Праўда, і тут гэтыя нормы ўзаемаадносінаў Царквы і Дзяржавы ня могуць ствараццa свабоднымі паглядамі таго ці іншага ўраду, але павінны будуць у галоўных найістотнейшых рысах азначацца агульнымі загадамі гарантуючай вольнасьць Царквы Констытуцыі Польскай Рэспублікі.

Што-ж датычыць статуту, рэгулюючага ўнутраны лад Царквы, узаемнае палажэньне Яе органаў упраўленьня, Яе іерархіі, дык гэтая галіна цалком і блізу непадзельна належыць да ўлады Сабору.

Кіруючай ідэяй, якая павінна быць паложана ў аснову гэтага статуту павінна быць вялікая, істотная, органічна-характэрная для Праваслаўя — ідэя саборнасьці.

Гэтая ідэя павінна быць праведзена паступова і органічна праз увесь статут унутранага ладу Царквы, праз усю яе ўнутраную організацыю. Дзеючыя ў нас цяпер царкоўныя ўстановы, а ў першую чаргу духоўныя консісторыі паказалі даўно сваю неадпаведнасць новым вымаганьням царкоўнай грамадзкасьці, дыктаваным ідэяй саборнасьці. Ад іх, ад усіх іх чынаў, нават ад вонкавых формаў іх чыннасьцяў — вее старым расейскім „прыказным ладам". Такія адсталыя па духу і па форме ўстановы — нават пры добрай волі сваіх агентаў — ня могуць вясьці вялікую, неабходную працу пляновай і ўсебаковай арганізацыі царкоўнага жыцьця, вымаганую патрэбамі новай царкоўнай грамадзкасьці. Ня кажам ужо тутака аб тых надужыцьцях, аб якіх, нажаль, поўна вестак і чутак у грамадзянстве, надужыцьцях з боку паасобных прэдстаўнікоў консісторыяў, магчымасьць, бо-ж безкарнасьць якіх гарантуе якраз гэты „прыказны лад", закрыты для вока і волі царкоўнай грамадзкасьці. Таму ня можна дзівіцца, што гэтыя консісторыі карыстаюцца асаблівай непапулярнасьцяй, каб не сказаць значна сільней, у вачох усяго праваслаўнага грамадзянства.

Перабудова ўсяго сінодальна-консісторскага ладу нашае царквы, як і ўсіх органаў царкоўнага ўпраўлельня і епархіяльнай улады — у духу саборнасьці — вось конкрэтная галоўная задача Сабора.

Вялікі прынцып саборнасьці, жывы дух царкоўнага цела Праваслаўнае Царквы, трэбуе, каб новая яе організацыя была пабудавана так, каб усе сябры Царквы — праз сваіх вольна выбраных прэдстаўнікоў — прыймалі дзейнае ўчасьце ня толькі ў царкоўным жыцьці, але й у царкоўным упраўленьні.

Мы не хаваем ад сябе ўсіх труднасьцяў правядзеньня саборнага прынцыпу ў нашае царкоўнае жыцьцё.

Ня спрыяюць яму і вонкавыя варункі палажэньня Праваскаўнай Царквы ў Польшчы, як і перахаваныя старыя навыкі большасьці нашай царкоўнай іерархіі. Не варожыць шпаркага пасьпеху ажыцяўленьня новага саборнага ладу і ведамыя нам усім недахопы нашай грамадзкасьці: пасыўнасьць, настрашаннасьць, слабасьць царкоўнай сьведамасьці, няўменьне арганізавацца і т. д.

Усё гэта дае прыхільнікам „прыказнага ладу" пазоры слушнасьці — у іх „няверы" у новы саборны лад, у якім яны бачаць толькі — „анархію і пагрозу раскладу Праваслаўя".

Але гэта — няпраўда! Наадварот — у саборнасьці, як істотнай ідэі Праваслаўя, хаваецца вялізарная царкоўна - творчая, грамадзка-арганізуючая і ўзгадоўваючая сіла, якая адна толькі здольна стварыць чуда царкоўнага адраджэньня — асабліва пры нашых выняткова цяжкіх вонкавых і ўнутраных варунках царкоўнага жыцьця. Таму трэба адразу і рашуча ступіць на гэты шлях ***саборнай самаарганізацыі***. Пройдуць дзясяткі гадоў — царкоўнае жыцьцё, пабудаванае на падставах саборнасьці, зразумела-ж, не адразу закрасуе новым ладам. Але — з кожным новым годам сьвяты, загаданы нам Самім Боскім Закладчыкам нашае Царквы, дух новага ладу, дух саборнасьці, будзе ўладна наладжываць нашае царкоўнае жыцьцё, ствараючы з Царквы магутнае асяродзьдзе жывых сілаў — сьвятое вогнішча, сьвятлом і вагнём з якога будзе карыстацца ўся праца над усебаковым нацыянальным адраджэньнем нашага народу.

# З чаго спарадзілася дый як памерла гісторычная вунія.

Ня можна не заўважыць што ў шырокіх колах грамадзянства, асабліва польска - каталіцкага існуюць зусім неправільныя погляды на сутнасьць Берасьцейскай вуніі, на ход і лёс яе, на яе ўвядзеньне і ліквідацыю, як пэўных рухаў народных і грамадзянскіх. Прычынай таму зьяўляецца дужа малая сьведамасьць, што да гістарычных фактаў і абставін, сярод якіх паўстала, а пасьля заняпала вунія. У большасьці польска-каталіцкага грамадзянства гістарычны погляд на вунію, на каталіцтва і на праваслаўе сводзіцца нават да нейкай „упрощенной формулы": wszystko było nasze, ale przyszedł Murawjow i wszystko to zabrał". Ім здаецца што каталіцтва тут было адвечнай рэлігіяй, а праваслаўе пачалося ледзь толькі ад Семашкі і Мураўёва (хоць гэта не і сучасьнікі). Дзеля гэтага тыя польскія вучоныя, каторыя ўзапраўды шчыра прыймаюцца за студыяваньне гісторычных спраў вуніі, як, напр. Харкевіч (гл. яго кніжку „Zmierzch unji" і цэлы рад стацей у „Słowie" віленскім) заўсёды ня могуць стрымацца ад выяўленьня свайго зьдзіўленьня на зусім новыя, як гаворыцца, „кругазоры", якія адчыняюцца ім пры гэтым студыяваньні, а таксама і на той анальфабэтызм што да гэтага прадмету, які пануе сярод польскага грамадзянства.

Мы на гэты раз хочам падчыркнуць дзьве характэрныя рысы ў гістарычных лёсах вуніі.

1. ***Увядзеньне вуніі пачыналася і йшло зьверху і было выключна акцыяй ураду, паноў і вышэйшай іерархіі. Народ прыставаў да яе неахвотна і пад прымусам.***

2. *Ліквідацыя вуніі — наадварот — пачалася і пайшла выключна зьнізу, в народу, і толькі паступова да яе сталі далучацца духавенства, спачатку ніжэйшае, пасьля вышэйшае і ўрэшце расейскі ўрад.*

---

Пачнем з першага тэзісу.

Галоўным матывам, які выклікаў згоду на вунію з Рымам у вышэйшага праваслаўнага духавенства ў канцы XVI ст., было імкненьне дасягнуць таго самага палажэньня і тых правоў, якімі карысталася ў Польшчы вышэйшае духавенства каталіцкае. Гэты матыў праглядывае ўва ўсіх перагаворах і ўмовах, якія вяліся паміж тагачаснымі прадстаўнікамі праваслаўнага духавенства: Іпаціем Пацеем і Кірылам Цярлецкім і каралём Жыгімонтам III.

Каталіцкае духавенства ў гэныя часы вяло бліскучае, вясёлае, панскае жыцьцё, жыло ў багатых замках, устраівала пышныя банкеты і нават паляваньні; прадстаўнікі яго адыгрывалі не малую ролю ў польскім сойме. Праваслаўнае духавенства, наадварот, сьціснена было з аднаго боку залежнасьцьцю ад караля і паноў на моцы існаваўшага ў Польшчы „права патронату" (права караля і паноў вызначаць па сваей волі вышэйшае духавенства), з другога боку залежыла і ад народу, галоўнае ад брацтваў. Брацтвы, карыстаючыся з гістарычна злажыўшыхся ў царкоўным жыцьці ўкраінскага і беларускага народу правоў і звычаяў, часта пасьля падцьверджаных Канстанцінопальскім патрыярхатам, зырка сачылі за сваімі архірэямі і стараліся не даваць ім дужа волі ў насьледаваньнях духавенству каталіцкаму ў справах жыцьця, а асабліва ў справах веры. Гэтай залежнасьці ад ніжэйшага духавенства і міран не маглі знасіць асабліва тыя праваслаўныя гіерархі, як, прыкл., вышэй памянуты Пацей, якія вучыліся ў каталіцкіх вышэйшых школах гдзе, добра прыглёдзіліся да жыцьця духавенства каталіцкага і набраліся яго духу. Вось дзеля гэтага ўсе перагаворы аб вуніі яны стараліся весьці *ў тайне ад народа і брацтваў.* Абяцаньне Жыгімонта ўраўняць уніяцкае духавенства ўва ўсіх правох з каталіцкім, падпарадкаваць ім брацтвы, даць ім правы караць усіх, хто ім ня будзе падпарадкавацца, вярнуць адабраныя ад праваслаўных цэркваў землі і маёткі, — вось што стаіць на першым пляне ў перагаворах і прамовах аб гэтым „рэлігійным пытаньні" — вуніі.

Калі вунія была аб'яўлена ў Берасьці на саборы 1595—96 годзе, з усяго праваслаўнага епіскапату толькі двух асталося вернымі праваславію, за тое асталіся ў сваей веры — падаўляючая большасьць ніжэйшага духавенства і можна казаць увесь народ.

Няма патрэбы тут апісываць усе тыя жудасныя спосабы рэпрэсый і прымусаў, якімі ўводзілася вунія. Даволі сказаць, што калі памёр апошні праваслаўны архіерэй (Міхал Капысьценскі ў 1612 г.) і пасьля яго ўжо 8 гадоў праваслаўныя аставаліся без сваей іерархіі, то толькі абарона казацкіх шабель дала магчымасьць Ерусалімскаму патрыарху Феофану пасьвяціць у Кіеве новых праваслаўных архіерэяў, толькі крывавае паўстаньне казакаў здабыла гэтым архіерэям права на існаваньне ў Польшчы.

Барацьба за веру цягнецца праз XVII і XVIII стагодзьдзі. Але мала-памалу (сіла ломіць салому) перамога стала пераходзіць на старану вуніі. Першымі здаліся праваслаўныя паны, — беларуская і ўкраінская арыстакратыя. Спольшчаная ў езуіцкіх школах, яна страціла сваю нацыянальнасьць і стварыла з сябе цьвет арыстакратыі польскай.

Часткай пад гвалтам і прымусам, часткай пад спакушэньнем на лепшыя правы і долю пераходзіла патроху на вунію і духавенства. Карыстаючыся з права патроната, паны стараліся назначаць праваслаўнымі сьвяшчэньнікамі найгоршых прадстаўнікоў грамадзянства. Народ гналі ў вунію гвалтам. І ўсё-ж-такі пры ўсіх такіх адносінах гэты народ, — сяляне, казакі і меставыя купцы і работнікі, зарганізаваўшыся ў цэхі і брацтвы, несьлі ў працягу двух стагодзьдзяў і вынясьлі на сваіх плячох і сваю веру і сваю нацыянальнасьць, У рэшце аднак і народ стаў слабець. Вунія высмактала з яго ўсе найлепшыя сокі. Астаўшыся без сваей асьветы, без свайго цьвета — інтэлігенцыі, з нізкім па асьвеце і маральнасьці духаведствам — адным словам безабаронным і бязпомачным, — народ пачуў, што ён пачынае гінуць і нацыянальна і рэлігійна.

---

Як ні дарага для чалавека свая мова, свая нацыянальнасьць, але вера даражэй за ўсё.

Вера ёсьць перадусім такое ці іншае стараньне аб спасеньні сваей душы, а, як гаворыцца ў Эвангельлі: „што-ж чалавек дасьць узамен за сваю душу?“. І вось пачынаецца гэты стыхійны рух на Усход, адкуль народ інстынктыўна чакаў сабе помачы хоць-бы ў справе ратаваньня сваей веры, нават коштам сваей нацыянальнасьці, бо пераканаўся што ў Польшчы ён страціць і тое, і другое. З двух ліхаў як кажуць, трэба выбіраць меншае.

Ад паловы XVII ст. у Маскву, а пасьля (XVIII ст.) у Пецярбург без перарыву йдуць і йдуць прозьбы і маленьні аб абароне і помачы. Урады расейскія, зразумела, карыстаюцца гэтым усім, каб умешывацца ўва ўнутраныя справы Польшчы, а гэта ў рэшце даводзіць да яе падзелаў.

Але калі стаўся гэты падзел, і беларускія краі сталі далучацца да Расеі, стварылася ня зусім тое, чаго чакаў і хацеў народ. Урадам расейскім „мало было дзела“ да народу і яго веры, да яго рэлігійных імкненьняў, бо ім хадзіла аб „вышэйшую палітыку“.

Кацярына II, далучыўшы да Расеі „Русь Белую“, перад усім хацела „щегольнуть“ перад Эўропай сваей толеранцыяй да каталіцтва, каб хоць крыху зьменьшыць ураженьне ад самага падзелу. З другога боку, напужаўшыся францускай рэвалюцыі і ўважаючы, што найлепшай апорай проці яе будзе каталіцкая царква і асабліва езуіты, Кацярына старалася, як гаворыцца, „ухажываць“ за імі. Ня гледзячы на тое, што езуіцкі ордэн ужо афіцыяльна быў перад гэтым скасаваны (папай Клемэнцыям XIV) і нават выселены (у 1773 г.) з Польшчы, яна і дала яму прытулак у Расеі. З свайго боку і езуітам праз саюз з Кацярынай адчыняліся пэрспэктывы шырокай прапаганды ка-

таліцтва ў Расеі, і яны, можна сказаць „прадалі“ ей Польшчу за гэта бязмежнае поле для „propagandae fidei“. Каталіцкі мітрапаліт у Расеі Станіслаў Сестрэнцэвіч, абласканы Кацярынай, надзеляны ад яе агромнай пэнсіяй і нязьлічанымі маёткамі, шырака карыстае з гэтай прыхільнасьці царыцы. Ён многа памагае ей у справе русіфікацыі нават каталікоў, але ўсімі спосабамі ўстрымлівае паварот вуніятай да праваслаўя. Урад расейскі забараняе вуніятам пераходзіць масава — цэлымі парафіямі — на Праваслаўе, дазваляе толькі паасобным адзінкам, ды й то са згоды сваіх паноў. Надарэмна праваслаўны беларускі архіепіскап Грыгорый Каніскі, апіраючыся на бяспынныя просьбы да яго ад вуніяцкіх прыходаў, засыпае расейскі ўрад сваімі дамаганьнямі аб дазволе вольнага пераходу вуніятаў на праваслаўе. Урад проста не адказывае яму на гэтыя просьбы. Калі ўсё-ж у рэшце ўдалося дабіцца гэтага дазволу ў нявыразным указе графу Чэрнышову (1780 г.), дзе дазваляўся такі пераход толькі *на выпадак вакансіі ў вуніяцкім прыходзе* і са *згоды ўсіх парафіян* дык у першы-жа месяц далучылася да праваслаўя адразу 10.000 вуніятаў, а да канца 1784 году — 117.116 ч.

---

Так цягнулася справа „ліквідацыі“ вуніі *пры штучным ватрыманьні яе самім расейскім урадам* (не гаворачы ўжо аб перашкодах з боку каталіцкіх паноў і духавенства) аж да трэцяга паддзелу Польшчы. Толькі паўстаньне Касьцюшкі (1794 г.) крыху зьмяніла погляд расейскага ўраду на гэтую справу і змусіла крыху лягчэй даваць дазволы на гэты пераход. Дзякуючы гэтаму, як паказывае сынадальная статыстыка за 8 мясяцаў ад жніўня 1894 г. па сакавік 1895 г. далучылася да праваслаўя вуніятаў 1.483.111 — блізка паўтара міліёна! — пры тым 2603 прыходаў і 1552 сьвяшчэньнікаў.

Гэтыя лічбы дужа красамоўны. Яны выразна паказываюць, што *наперадзе* ў гэтай справе ідзе стыхійна *народ*, ідзе масамі, цэлымі парафіямі (2603), за ім але не ў зусім прапарцыянальным ліку (1552) ідзе *ніжэйшае духавенства* (значыць 1051 сьвяшчэньнік астаўся ў вуніі, ня гледзячы на тое, што іхнія верныя ўсе, ці ня зусім усе, перайшлі на праваслаўе), і... пакуль што *ніводнага вуніяцкага архіерэя!* — бо ім жылося лепш, чым праваслаўным. Так было пры канцы панаваньня Кацярыны. Пры імп. Паўле справа ліквідацыі вуніі адразу затрымалася Захоплены ідэяй аб'яднаньня ўсіх хрысьціян, стаўшы, сам на чале каталіцкага (!) Мальтыйскага ордэну, ён стараўся ўсімі сіламі паказаць сваю прыхільнасьць і да палякоў, і да каталікоў. Ён вярнуў з ссылкі палякаў, высланых за „мятеж 1794 г.“, аддаў ім назад канфіскаваныя маёнткі і г. д., а галоўнае *падпарадкаваў вунію* р.-каталіцтву, чым зусім затрымаў рух з вуніі ў праваслаўе.

Няма чаго доўга гаварыць аб часох імп. Аляксандра I, калі расейскі ўрад нават зьмяніў сваю палітыку і адносна русіфікацыі. *Ніколі беларускае грамадзянства й народ не палёнізаваліся так хутка і інтэнсіўна, як пры ім.* Але ўсё-ж народны рух у Праваслаўе прадаўжае прабівацца праз усе перашкоды. Так больш-менш ішло аж да часоў Мікалая I і новага польскага паўстаньня. Але і пасьля гэтага ўрад расейскі не

адразу згадзіўся на „ліквідацыю вуніі“. Ужо цяпер аднак-жа, ў сьлед за ніжэйшым вуніяцкім духавенствам, да народнага руху стала далучацца і вышэйшае. Зьявіліся Іосіф Семашка, Антоні Зубка, Васілі Лужынскі, Антоні Тупальскі і іншыя. Перапіска Семашкі і яго даклады тагачасным расейскім уладам выразна сьведчаць аб тым, колькі каштавала яму, каб пераканаць гэныя ўлады, што ім карысна ў палітычным сэнсе далучэньне вуніятаў, пакуль у рэшце на дакладзе аб пастанове Полацкага сабору паўстала царская рэзолюцыя „Благодарю Бога і приемлю“. Семашка змушаны быў цесна зьвязаць справу ліквідацыі вуніі з справай русыфікацыі, бо іншага выхаду для справы веры ён ня бачыў, і купіў яе гэтаю цаною. Калі-б ня гэта, то напэўна ён ніколі-б не дабіўся на гэта дазволу.

Стыхійны аднак-жа рух і тут выявіўся адразу. Пасьля сынодальнага ўказу далучылася да Праваслаўя больш як 1.500.000 вуніятаў.

І вось тут толькі урэшце „зразумеў“ гэты рух (але па свайму) і расейскі ўрад; — зразумеў і пачаў ліквідаваць рэшткі вуніі на свой лад. Ліквідацыя вуніі прызнана была цяпер карыснай для дзяржавы, усе дзеячы далучэньня трактаваліся, як верныя яе слугі. І вось, толькі тады пачалася ўрадавая ліквідацыя вуніі. Цяпер уважалася таксама пачэсным „тащить“, як яшчэ нядаўна „не пущать“. Кожнаму губэрнатару ці спраўніку прыемна было данесьці „начальству“, што „во ввѣренном мнѣ уѣздѣ униатов уже не осталось“, а пасьля рознымі прымусамі заганяць у Праваслаўе гэтыя малыя ўжо рэшткі, ці „недабіткі“ вуніі. Пачаліся тяжкія гвалты, якія хоць і прывялі да фармальнага поўнага зьліквідаваньня вуніі, *але стварылі як раз адваротны рух з Праваслаўя ў каталіцтва*, які так ярка выявіўся нават праз 70 гадоў, калі імп. Мікалай II аб'явіў свабоду веры (1906 г.).

Але галоўнае тое, што гэтыя ўсе выпадкі гвалтаў і надужыцьцяў, гэтае бязлітаснае дабіваньне „рэўнастнымі“ прадстаўнікамі ўлады рэштак вуніі, дый яшчэ значна раздутае ў польскай і эўропэйскай прэсе *), і стварылі сваім прыкрым уражаньнем тую легенду аб гвалтоўнай ліквідацыі ўсей вуніі, як справы Семашкі і Мікалая І-га, якую заўсёды паўтараюць ня толькі польска-каталіцкія кругі, але за імі і беларускія, а нават і расейскія. Усё папярэдняе, усе надужыцьці над Праваслаўем, уся народная барацьба за веру, ўсе стараньні народу аб паварот у Веру Праваслаўную,—усё было заслонена гэтымі наўдалымі чынамі расейскай улады і палітыкі, чым яшчэ раз усяму міру даказана, як шкодны ўсялякі прымус і ўсялякая „палітыка“ у справах, якія датычаць найдаражэйшай для нас рэчы — душы і веры.

---

*) Як раздуваліся ўсе падобныя выпадкі, сьведчыць тое, што нават легэнды аб іх пашыраліся і тады і там, дзе ніякіх надужыцьцяў ня было. Досыць успомніць справу Макрыны Мечыслаўскай, якую калісьці вазілі па ўсей Эўропе і ўсюдах паказывалі як мучаніцу за веру, быццам гвалтам „перавернеую“ на Праваслаўе. Урэшце прыняў, яе і папа. Даў ей высокую пасаду, а пасьля сьмерці прызнаў нават за сьвятую (?). Надарма Семашка стараўся гэта ўсё запярэчыць. Яму ня верылі. А цяпер нядаўна вядомы каталіцкі вучоны кс. Урбан выпусьціў аб ей кніжку, дзе даказывае, што гэта была нейкая невуцёвая дзяўчына, авантурыстка і што ўсё, што яна расказывала аб сабе, няпраўда. Не ўстрымаўся ад раздуваньня нават і сам Харкевіч, хоць і прызнае стыхійны народны рух у праваслаўе. Гл. рэцэнзію на яго кніжку ў „Słowie“ 15.VIII 1929 г.

# Пропаганда вуніі т. зв. „Ц. Бел. Праваслаўн. (?) Комітэтам".

Няварта было-б марнаваць час і працу на разгляд дзеяльнасьці, а асабліва выданьняў так зван. „Цэнтр. Белар. Праваслаўнага Комітэту", які, як ведае ў нас кожны, ня мае ў сваім складзе ані паважных, ані паважаных людзей, дык і ня мае ніякага позытыўнага ўплыву і значэньня наагул.

Але гэта зусім ня значыць, што выданьні Комітэту ня маюць негатыўнага, папросту шкоднага ўплыву і значэньня. Ня кажам ужо аб тых брудах зьместу і стылю гэтых выданьняў, якія павінны адпіхаць ад комітэту ўсіх, шануючых сябе і царкоўную справу людзей. Маем на мэце нешта іншае.

Маем на мэце тутака выразную пропаганду вуніі, якую вядзе гэты „Комітэт" — пад фірмай „абароны беларускага праваслаўя". Не патрабуем тутака высьвятляць шкоднасьці такой акцыі, якая дае падставы лічыць „Комітэт" экспозытурай іншых, схаваўшыхся за яго плячыма, чыньнікаў, якіх называць нават непатрэбна. Даволі будзе толькі, пераглядзіўшы ў шпаркім аглядзе гэтыя выданьні Комітету, прывесьці вытрымкі, якія нязьбіта сцьвярджаюць гэты выразна вуніяцкі характар „Беларускага Праваслаўнага Комітэту".

Гэта мы і робім ніжэй.

У № 4(1) „Сьветача Беларусі" (ліпень—1931 г.) арт. „Справа вунійная" канчаецца такімі радкамі: „Беларускае грамадзянства можа і павінна прызадумацца над пытаньнем: з кім ісьці яму? Тым балей, што яшчэ ня так даўно вунія была вераю беларускага народу"... Для „Цэнтр. Белар. *Праваслаўнага* Комітэту" пытаньне: з кім яму ісьці: ці з Праваслаўем ці з вуніяй, яшчэ нявырашана... Так і запішам.

У № 2(5) таго часопісу — арт. „З кім змагацца" кажа, што ізноў, як у мінуўшчыне, распачаўшыся за беларускі народ між Праваслаўем і вуніяй бо вядуць асобы (?) нам чужыя (?): з аднаго боку неабапертая на нашым народзе Царква (Праваслаўная), з другога — нічым ненавучаная польска-расейская(?) вунія... Такім чынам—абедзьве вядучыя барацьбу сілы, як „польска-расейская" вунія, так і Праваслаўе, аказываюцца *аднолькава чужымі* для беларускага народу. Далей артыкул абураецца на „Воскресное Чтеніе", якое так востра выступае проці вуніі, — „хаця гэтая вунія яшчэ ня так страшна пагражае". З гэтага — ясна, што з дзьвюх боручыхся сілаў: Праваслаўя і вуніі, вунія пагражае беларускаму народу менш...

У артык. „Неабходнасьць хрысьціянскага аб'еднаньня" (у тым-жа № „Сьветача") робіцца гвалтоўны напад на Праваслаўную Царкву за тое, што *яна* ня хоча ісьці на злучэньне з Рымам, „вышуківаючы не закранаючыя рэлігійнае душы казуістычныя памылкі і недакладнасьці". Такім чынам паміж праваслаўям і папскім каталіцтвам ляжыць толькі „казуістычная, незакранаючая рэлігійнае душы", драбяза, ды й то „вышуканая" Праваслаўем...

У тым-жа №, у аддзеле „Агляд прэсы" з захопленьнем цытаваны артыкул газ. „Беларуская Крыніца" — „Барацьба за Царкву" —

з выразна вуніяцкай тэндэнцыяй, якой паступова служыць орган Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Аўтар „агляду“ піша: „часьцей і часьцей у нас пачынае зьвяртацца ўвага, асабліва народнымі гушчамі (?!), на тое, што вунія, гэта — пытаньне нацыянальна-рэлігійнае. справа агульна беларуская“..,

Урэшце, каб на было ўжо ніякіх сумліваў у выразна вуніяцкім характэры „Ц. Бел. Праваслаўнага Камітэту“ і яго выданьня “Сьветача Беларусі“, у тым-жа № апошняга зьмешчана праграма, якую Комітэт кладзе ў аснову ўсей сваей дзеяльнасьці. Вось яна, гэтая праграма органу „беларускага праваслаўя“ (?) — у трох пунктах:

1. Барацьба з усім (?) тым, што пакінула нам у Царкве Маскоўшчына.

2. Патрэба новага будаўніцтва Праваслаўнай Царквы, на чале з новымі правадырамі — (п. п. Вярнікоўскім, Більдзюкевічам, Сорокай, Каўшом ?).

3. *Вунія з Рымам, як фактар беларускага нацыянальнага адраджэньня.*

---

Здаецца, больш доказаў вуніяцкага характару ўсей акцыі „Комітэту“ і яго часопісі шукаць не патрэбна: сцьвердзіў гэта нязьбіта і бясспрэчна Комітэт у сваім органе сам.

Дзіўна ўва ўсім гэтым ня тое, што „Праваслаўны‘ Комітэт існуе, што такі орган выдаецца, што пад відам абароны праваслаўя ідзе прапаганда вуніі.

Дзіўна тое, што з гэтым „Комітэтам“ неяк яшчэ лічыцца наша вышэйшая Іерархія, як з „прэдстаўнікам беларускага праваслаўнага грамадсянства“, як гэта вынікае з апошніх назначэньняў Сіноду!!.

Дзіўна, што там на вярхах не зразумелі яшчэ, што гэты „Комітэт“—толькі дрэнна замаскаваная экспозытура вуніяцкай пропаганды, ня кажучы ўжо аб усіх іншых азнаках гэтай кумпаніі.

---

# Дзіўныя назначэньні на апошняй сэсіі сьв. Сіноду.

Дэлегацыі ад беларускага праваслаўнага грамадзянства, у нашай епархіі, якая спэцыяльна зьвярталася да найвышэйшых прэдстаўнікаў Праваслаўнай Іерархіі ў Польшчы—ў справе ўрэгуляваньня царкоўнага жыцьця беларускага народу на новых нацыянальна-грамадзкіх падставах, — было выразна, як у Варшаве, таксама і ў Вільні, запэўнена задаволіць яе слушныя і вельмі скромныя дамаганьні, як першы шчыры крок на шляху вырашэньня вялікага ды зложанага пытаньня ўва ўсей яго поўні

У выніку ўзаемнага паразуменьня прыраклі, што беларускаму царкоўнаму грамадзянству ў асобах яго кандыдатаў — будзе перадана

Мікалаяўская Царква ў Вільні, і што пры зьмене асабістага складу вышэйшых чыноў Консісторыі будуць прыняты пад увагу слушныя дамаганьні прыдаць часткова беларускі характар гэтаму органу царкоўнага ўпраўленьня ў аднэй з найважнейшых беларускіх епархіяў. Таму мы — с поўнай верай у тое, што слова, ідучае з вуснаў найвышэйшых прэдстаўнікаў нашай Іерархіі, – падвойна сьвята, — падалі аб гэтых спадзеваных пераменах у нашым царкоўным жыцьці да ведама нашых чытачоў у першым нумары нашае часопісі.

Тым часам, як нас інфармуюць, чарговыя назначэньні пайшлі зусім ня ў тым напрамку, які прадбачылі ўказанныя вышэй прырачэньні з боку найвышэйшых прэдстаўнікоў Царкоўнай Улады.

---

Найбольш дзіўным нам выдаецца тое, што ў Мікалаяўскую Царкву назначаны, як чутна, не кандыдат высуваны беларускай грамадзкасьцяй, але *адкінены ўсім без розніцы нацыянальнасьці праваслаўным грамадзянствам Вільні сьвяшч. А. Коўш.* Ня ведаем, чаму і як гэта сталася. Ведаем толькі напэўна, што гэтая памылка павінна будзе балюча адбіцца на аўтарытэце найвышэйшых кіраўнікоў Праваслаўнай Царквы, падпісаўшых гэтае назначэньне. Што гэта так, даводзіць той узрыў абурэньня сярод шырокіх колаў праваслаўнага грамадзянства, красамоўнае адбіцьцё якога даюць абодва зьмешчаныя ў гэтым нумары адкрытых пісьма да сьвяшч. Каўша.

Залішне ёсьць цяжкае і зложанае жыцьцё нашай Царквы, каб наша вышэйшая Іерархія магла дазваляць сабе рабіць такія фатальныя памылкі.

Павінны дадаць, што *мясцовая* Епархіяльная Ўлада, бліжэй ведаючая нашыя царкоўна-нацыянальныя справы і адносіны, да апошняй магчымасьці стаяла на груньце асягненага паразуменьня. з поўным разуменьнем важнасьці справы спрацiўляючыся з усіх сілаў проці гэтага назначэньня. Такім чынам павінны сцьвердзіць, што зломана паразуменьне было ня ў Вільні, але ў Варшаве...

„Можна падумаць, што ў Варшаве вам зроблена была наўмысная няпрыемнасьць“, — так характеэрна выразілася аб гэтым факце адна добра паінфармаваная асоба, прыхільна цікавячаяся нашай царкоўна-нацыянальнай акцыяй. Ці гэта так запраўды, ня ведаем. Ведаем толькі, што калі мы баронім толькі і выключна нашую агульную і супольную праваслаўную справу царкоўнага адраджэньня і не дамагаемся ад нашай найвышэйшай Іерархіі нічога іншага, як толькі прыхільнасьці ды помачы ў гэтай справе, дык „няпрыемнасьць“ — ясна-ж — робіцца тутака ня нам, але — *усей гэтай сьвятой справе.*

Як нас інформуюць, асаблівае падтрыманьне кандыдатура сьвяшч. Каўша знайшла з боку архіяп. Аляксея. Але мы пераконаны, што Высокі Пратэктар сьвяшч. Каўша, папросту фальшыва паінфармаваны дый уведзены ў памылку, хутка зорыентуецца ў сітуацыі і скіруе ўсю сваю мудрую энэргію на тое, каб паправіць памылку: дапаможа беларускаму царкоўнаму грамадзянству звольніцца ад непажаданага для яго іерэя, дый наагул — сваім прэдстацельствам перад Мітрапалітам — падтрымае слушныя дамаганьні беларускай грамадзкасьці.

Ня можам тутака не ацаніць гэтага назначэньня яшчэ з аднаго боку. — Хто ў нас ня ведае аб тэй нячувана жорсткай барацьбе, якую вялі паміж сабой у апошнія гады абодва назначаныя служыць перад адным прэстолам сьвяшчэньнікі: а. а. Кушнёў і Коўш? Хто ня ведае ўсяго таго, што пісалася проці прот. Кушнява ў „аднаднёўках“, падпісаных падручным сьвяшч. Каўша, студ. Сарокай? Можна, зразумела, верыць у бязьмежнае хрысьціянскае „всепрощеніе“ у душы абодвух іерэяў, якім „прыказана памірыцца“ (?). Але ўсё-ж глядзець усьцяж на іх „лобызаньні“ — пры багаслужэньні ў сьвятога прэстолу — для ведаючых усё гэта дакладна прыходжанаў будзе „па чалавецтву неяк“ — „соблазнительно“...

---

Такое-ж зьдзіўленьне выклікае і назначэньне сябрам Віл. Дух. Консісторыі сьвяшч. Уладзімера Беляева. Ня можам нічога закінуць яму і асабіста і як сьвяшчэньніку. Але-ж для працы ў Консісторыі патрэбна некалькі больш жыцьцёвага ды службовага досьледу, якога ня можа быць у такога маладога іерэя. А перад усім патрэбна моцнае здароўе, якога ён, нажаль, таксама ня мае. Па загаду дактароў а. Беляяў павінен штодзенна ляжаць у ложку па 2 гадзіны перад абедам і пасьля абеду. Пры такім курацыйным рэжыме цяжка займацца справамі ў Консісторыі!

---

## Открытое письмо священнику Александру Ковшу.

*Вильна, Лѣтняя ул. № 7.*

ВАШЕ ПРЕПОДОБІЕ.

С великим прискорбіем узнали мы о назначеніи Вас пастырем нашей Св. Николаевской Церкви.

Настоящим мы, прихожане этой Церкви, выражаем категорическій протест против этого Вашего назначенія, т. к. считаем, что Вы всей Вашей общеизвѣстной предшествующей дѣятельностью и поведеніем слишком уронили Ваш священный сан и совершенно скомпрометировали себя лично.

Поэтому мы обращаемся к Вам и к Вашей совѣсти с убѣдительнѣйшей просьбой не чинить насилія над массой православных душ и не принимать назначенія, т. к. Вам одинаково, как и нам, дожны быть дороги мир и покой в Церковной оградѣ.

Во избѣжаніе непріятностей и недоразумѣній, так легковозбудимых в настоящее время, как равно и вредных, мы просим Вас не навязывать приходу Вашей особы, совершенно для него непріемлемой.

Предупреждаем Вас, что считаем Вас пастырем недостойным, от котораго не примем ни таинств, ни благословеній, и с которым даже молитвенное общеніе для нас невозможно.

*Прихожане Виленск. Св. Николаевской Церкви.*

Подліньнік пісьма — з падпісамі знаходзіцца ў Рэдакцыі нашай часопісі.

# Адкрытае пісьмо ад прыходжан Віл. Сьв. Мікалаяуск Царквы

## Сьвяшчэньніку Аляксандру Каўшу.

ВАША ПРЭПАДОБІЕ

Ззьвяртаемся да Вас з гэтым прывітаньнем, належным духоўнаму сану, які Вы носіце, які шанаваць мы прызвычаяны, але які Вы, нажаль, сваім паступаньнем ганьбіце.

З нявыразімым абурэньнем даведаліся мы аб назначэньні Вас на штатнае становішча сьвяшчэньніка ў нашую Царкву, г. зн. — аб паввароце Вашым у тую сям'ю Праваслаўных Віленскіх пастыраў, з якой Вы — прысудам яе брацкага суду, падтрыманага маральным спачуваньнем усяго Віленскага Праваслаўнага грамадзянства — больш году таму назад былі выкінены..

Што ж здарылася ад часу гэтага „ізвяржэньня" Вас з Віленскага Праваслаўнага асяродзьдзя? Ці апраўдалі Вы сябе перад Праваслаўнай грамадзкасьцяй, ці ачысьціліся Вы ад масы цяжкіх закідаў, якія пастаўлены былі Вам, хаця-б у апошнія часы?

Не! Замест адно толькі магчымага ў такіх выпадках публічнага апраўданьня ды пакаяньня, Вы, зачыніўшыся ў сваей гордыні, выбралі іншыя шляхі: Вы распачалі націск на сумленьне і на душы праваслаўных рознымі яўнымі і тайнымі спосабамі, даступнымі Вам аднаму, дзякуючы Вашай неразборлівасьці ў срэдствах. Вы пайшлі шляхом абіваньня парогаў у „маючых уладу", шляхом засыпаньня іх мэморыяламі ад нейкіх няіснуючых арганізацыяў Вашых быццам прыхільнікаў...

Але-ж нашых душаў і нашага сумленьня Вы такімі спосабамі ня прыдушыце. Мы ня пойдзем за Вамі, бо-ж усюдых, дзе толькі дакнецца Ваша рука, застаецца толькі „мерзость запустѣнія".

Далей пісьмо пералічывае цэлы рад дзеяньняў сьвяшч. А. Коўша, якія лічыць нягоднымі—як чалавека так асабліва-ж сьвяшчэньніка. Тут і „руйнуючая" *) дзеяльнасьць яго ў Сьніпішскім і ў Пятніцкім прыходах; тут і няўдалая спроба яго „улезьці на скуры (?) свайго-ж сабрата—сьвяшчэньніка" у Віл. Беларускую Гімназію", вучыцялі якой „далі такі аднадушны адпор" гэтай спробе; тут і яго „бясспынныя атакі на ўладаў, каб яму была аддама сьв. Мікалаяўская Царква, з яе даходамі і прыходжанамі, якім вельмі праціўна яго асоба", тут і „зусім недапусьцімы факт, што ён, адзіны з праваслаўных сьвяшчэннаслужыцяляў, выстаяў абедзьве імшы вуніяцкага япіскапа Чарнэцкага ў Вільні, дый нават знайшоў патрэбным на гэты выпадак налажыць на сябе расу і крыж, якіх звычайна не накладае, зьяўляючыся на вуліцах, у ўстановах, а нават на лекцыях Закону Божага ў школах у цывільнай вопратцы, гэтым, а таксама абцінанымі валасамі і голенай барадой, паказываючы найсумнейшы прыклад поўнае пагарды да аблічча сьвяшчэньніка і як быццам баючыся ўсялякіх азнакаў на сябе сьвя-

*) Гэтае выражэньне пісьма трэба хіба-ж разумець у сэньсе **духоўным**, **царкоўным**, бо-ж як **гаспадар** сьвяшч. Коўш жожа лічыцца прыкладным. Рэд.

шчэньніцкага сану“; тут і сказанныя сьв. К. праваслаўным людзям на тых жа вуніяцкіх імшах словы: „усе мы ў хуткім часе тут будзем“...

Далей ідуць напомненьні сьвяшч. Каўшу аб тым, што ён „дагэтуль не знайшоў часу запярэчыць масе закідаў, прэд'яўленых яму ў прэсе ў мінулым годзе, сярод якіх былі й цалком выразныя абвінавачаньні ў такім гаспадараваньні царкоўнай маемасьцяй Сьніпішскай Царквы, што ў выніку яго з царквы гэтай у часы яго настаяцельства згінула маса цэнных рэчаў, як плашчаніца, іконастас, голгофа, запрэстольныя іконы, чаша і інш. „Духоўнае сьледства па ўсім гэтым справам, кажа далей пісьмо, сцьвердзіла бясспрэчную Вашую віну. Але Вы, пагардзіўшы духоўным сьледствам да такой меры, што не зьявіліся нават ані на водны вызаў на вочную стаўку з паказываўшымі проці Вас пад прысягаю сьветкамі, стараецеся здабыць „рэабілітацыю“ не адно толькі прызваітым для кожнага гонаровага чалавека шляхом публічнага судовага сьледзтва і апраўданьня, а выключна шляхом імкненьняў пакрыць Вашыя дзеяньні аўтарытэтам тых ці іншых уладаў, ня перабіраючы пры гэтым ў выбары спосабаў дасягненьня гэтай мэты. І вось, калі Вас урэшце пазналі ды зразумелі, калі таму пасыпаліся на Вас розныя рэпрэсіі з боку духоўных уладаў, Вы, замест таго, каб чэсна ачысьціцца ад абвіненьняў, адказываеце знамянітымі „беларускімі аднаднёўкамі“, якія сваей агідай і подласьцяй перавысілі ўсё, што дагэтуль бачыў у друкаваным слове сьвет! Бо-ж колькі-б ня прызнаваўся студ. Сарока ў сваім фармальным аўтарстве, Вы сваім публічным пацалункам на судзе, таксама і тымі кветкамі, якімі абсыпала яго Вашая дачка, ведама-ж, з Вашага багаслаўленьня, — пераканалі ўсіх, што запраўднай душой ды аўтарам гэтых лістовак зьяўляецеся толькі Вы, дый што таму ўся іх агіда, подласьць ды гразь кладзецца перад усім на Вас асабіста.

Ня маем цяпер часу ні ахвоты пералічаць тутака іншыя Вашыя дзеяньні. Але й таго, што сказана, — больш, чым патрэбна для таго, каб мець права на парозе нашай Царквы зьвярнуцца да Вас з такім заклікам:

„Вы для нас не „входяй дверью пастырь овцам, ему же придверник отворяет и овцы слушают голоса его“ (Іоанн—Х-2-3), но тот, „кто не дверью входит во двор овчій, но прелазит индѣ“, дый каго сам Апостал называет... (Не падаем дакладна тутака, як называе такога „пастыра“ Апостал, бо-ж сьвяшч. Коўш сам добра ведае хіба гэты тэкст з Іоанава Эвангенія (І—10).

Таму не падходзьце-ж да нас! Пакіньце нас у спакоі! Мейце сумленьня хаця настолькі, каб адыйсьці ад нас!

Выбачце нам, але мы змушаны сказаць Вам гэтае горкае слова праўды. Мы сумуем аб Вас. Пазнайце-ж сваі віны ды пакайцеся. Пакаяўся-ж нават і Юда! Адрасьцеце бараду і валасы на галаве, „ліце нескверно пріимите“, навучыцеся хадзіць у расе, а тады — побач з воблікам сьвяшчэньніка, пашлець, мо' Бог Вам і сьвяшчэньніцкае настраеньне. Тады Вы самі зразумееце нас, зразумееце, што мы ня можам цяпер прыняць Вас інакш, як азлобленую цёмную сілу, варожую ўсяму Праваслаўю. Мы ня можам прыняць ні чыненых Вамі

таінстваў, ані Вашага багаслаўленьня, ня можам нават мець з Вамі ніякага еднаньня ў малітве, бо-ж літургія Ваша, як чалавека злога, азлобленага, ахопленага гордыняю, сярод паствы Праваслаўнай, пакрыўджанай, абражанай Вамі і азлобленай проці Вас, ня можа быць угоднай Богу. Вы ня можэце нам даць ні любові ні веры, без якой ня можна дагадзіці Богу, бо-ж самі іх ня маеце, а таму мы — па слову Сьвятога Пісанія — заклікаем Вас: „врачу“, сьпярша „исцѣлися сам“.

(Арыгінал з уласнаручнымі падпісамі — у Рэдакцыі).

# Епархіяльны Зьезд.

1 і 2 лютага мае адбыцца ў Вільні Епархіяльны Зьезд Праваслаўнага Духавенства, „запрошэньні“ на які ўжо разасланы ўсім яго вучасьнікам.

З гэтага ўжо відаць, што вучасьнікі Зьезду зусім не зьяўляюцца выбарнымі дэлегатамі ад благачыньняў, як гэта прадбачыць нават існуючы Статут сінодальна-консісторскага ладу. Яны ўжо «выбраны», а прасьцей: назначаны згары, з цэнтру Епархіяльнай Уладай. Такім чынам вучасьнікі Зьезду ўжо згары ў пэўнай меры пазбаўляюцца вольнага і незалежнага голасу на Зьезьдзе, а самы Зьезд — таго характару прэдстаўніцтва епархіяльнага духавенства (ня кажучы ўжо аб практыкаваным у нас вучасьці міран), які прадбачаць нават існуючыя законапалажэньні.

Мы лічым такі парадак склікаsuccessfully Зьезду вялікай і сумнай памылкай. Ці можна паважна гутарыць аб якой-небудзь рэформе нашай царкоўнай «констытуцыі», калі ня выконываюцца, не шануюцца загады існуючяй?!

Як-жа далёка нашая Іерархія стаіць ад духу новага сабарнага ладу, калі ўсьцяж тасуе такія спосабы самавольнага падбору сяброў Епархіяльнага Зьезду, пазбаўляючы законнага выбарнага права духавенства епархіі. Ад імя ўсей беларускай царкоўнай грамадзкасьці мы павінны рашуча запратэставаць проці такога спосабу падбору і скліканьня Епархіяльнага Зьезду.

# ХРОНІКА.

**— Справа прот. М. Кушнява — спынена прокуратурай.** Галосная ў сваім часе доўга цягнуўшаяся справа па ліквідацыі Віл. Епарх. Складу царкоўных рэчаў і па абвіненьню спэцыяльнай рэвізыйнай комісіяй (яшчэ ў 1928 г.) прот. М. Кушнява ў надужыцiцях пры гэтай ліквідацыі, урэшце папала на разгляд каронвага суду.

І вось толькі 28.XII—1931 г. сьледчая ўлада Віл. Акр. Суда, якой быў перададзены ўвесь матэр'ял па гэтай справе, паведаміла прот. Кушнява, што сьледзтва ў справе *на абвіненьню яго* ў надужыцьця і т. д. „zostało umorzone".

Нас просяць адзначыць, што ўся справа перададзена пракурорскай уладзе — з просьбай аддаць яго, Кушнява, пад суд, калі на гэта знойдуцца падставы ў высуваных рэвізыйнай ком. закідах — *самім прот. Кушнявым.* (Паведамленьне сьледчага судзьдзі I вокр. № 980). Напомнім, што ў расейск. газ. „Наше Время", галоўным супрацоўнікам якой зьяўляецца сябра гэнай рэвіз. комісіі, гр. Д. Д. Бохан, справа прэдстаўлена крыху(!) інакш. Там, у № 290, было надрукавана, быццам судовая ўлада спыніла справу *па абвіненьню а. Кушнявым рэвізыйнай комісіі* ў няправільных дзеяньнях, з чаго можна зрабіць вывад, быццам суд знайшоў дзеяльнасьць комісіі правільнай, а тым самым укосна прызнаў віноўным ў надужыцьцях а. Кушнява.

Адначасна выражаем нашую радасьць з прычыны зьняцьця пракурорскай уладай цяжкіх закідаў, у працягу столькіх гадоў ляжаўшых на апіекі праваслаўнага сьвяшчэньніка. Дадамо яшчэ, што наагул падобная справа ды такая валакіта магчымы толькі пры закрытым для вока і волі царкоўнай грамадзкасьці кансісторскім ладзе, але — ня мысьлімы пры ладзе саборным.

**— У Прачысьценскім Саборы** ў нядзелю 10.І, пасьля вячэрні, пры перапоўненым храме вернымі, была прачытана бяседа о Нараджаньні Хрыстовым. Пасьля бяседы Саборны хор прапеяў сьцяг пекных беларускіх калядак. Ладнае з душэўным уздымам пеяньне, кіраванае талентным і захопленым сваім мастацтвам рэгентам гр. Шырмай, ярка паказаўшым ўсё хараство гэтага дару кахаючай і творчай душы беларускага народу Хрысту, зрабіла глыбокае ўражаньне на слухачоў.

У канцы быў зроблены сбор на карысьць безработных, які даў да 40 зл., перададзеных на распараджэньне Архіяпіскопу Феодосію.

**— Чуткі аб пераводах.** Ходзяць упорныя чуткі, быццам на наступнай—сакавіковай—сэсіі Сіноду настаяцель царквы на прав. магілках, сябра Консісторыі прат. Краскоўскі, добра ведамы ў Вільні сваімі „дзівацтвамі",пераводзіцца ў адно з паветавых местаў. Галоўным матывам пераводу, як чутна, зьяўляецца яго залішне некорэктнае паступаньне з прыходжанамі. Былі, як нас паведамляюць, выпадкі, што з гэтай прычыны праваслаўныя нябошчыкі хаваліся на лютэранскіх, а нават — на каталіцкіх магілках! Аб тым, як „трактуе" а. настаяцель і сябра Консі-

сторыі інтэрэсантаў, ходзіць у Вільлі шмат „анэкдотаў“, з якіх некаторыя трэба-б назваць неяк інакш... Быў, прыкладам, выпадак, калі крык страціўшага ўсялякую меру вучыцеля зьмірэньня і любові выклікаў самленьне аднэй інтэрэсанткі, меўшай неасьцярожнасьць зьявіцца ў Консісторыю за мэтрыкай у стане цяжарнасьці... Кажуць і аб выпадку пабіцьця нават ў рызьніцы.

На мейсца прот. Краскоўскага мае быць, згодна з чуткамі, назначаны сябрам Консісторыі сьвяшч. Знаменскай Царквы а. Сайковіч, які заяўляе сябе расейцам.

Ня маючы нічога проці а. Сайковіча асабіста, дамагаемся толькі — згодна з дадзеным нам у Варшаве ўрачыстым абецаньнем — назначэньня сябрам Консісторыі прынамсь аднаго сьвяшчэньніка беларуса.

— **Нарады**. Як нас інфармуюць, у апошнія часы ў кельлі архім. Марозава адбываюцца нарады сьвяшч. Коўша з гаспадаром — у справе... рэарганізацыі так зв. „Цэнтр. Белар. Прав. Комітэту“. Сьвяшч. Коўш, які неаднойчы заяўляў публічна, што — „да складу Комітэту не належыць“, нахіляе ўсьцяж арх. Марозава да актыўнага ўчасьця ў Комітэце. Намячалася на нарадах уцягнуць у „прапу“ Комітэту і іншых „карысных“ асобаў.

Трэба прызнаць кооптацыю (?) новага сябры у „Комітэт Вярнікоўскага“ асабліва трафным: ніхто-ж хіба з усей стаі слаўнай нашых „пералётаў“ ня мае такога грунтоўнага асабістага досьледу ў справах вуніі (якой, як высьветлена у нас вышэй, асабліва цікавіцца дый спрыяе „Комітэт“), як гэты... не старгаваўшыся ў цане з вунійнымі „генераламі“ — за прадаванае ім Праваслаўе — нядошлы „вуніяцкі біскуп“, ён-жа праваслаўны армім. Марозаў?!.

„Цяжка, дадае наш інфарматар, глядзець на толерантнасьць з боку Вышэйшае Царкоўнае Ўлады да такіх „місіянераў“ — на абодва бакі праваслаўна-каталіцкага фронту ў нашым краі. Пара, здавалася б, Ей, перастаць ўжо „дажджыць аднолькава на праведнага і няправеднага“ дый, кінуўшы тактыку паўмераў, звольніць прынамсь цэнтральнае ўпраўленьне нашай епархіі ад актуальных ці эвэнтуальных вуніятаў“.

## Да нас пішуць:

### Архім. Марозаў у ролі дабрадзея бедных.

„Ведамы архім. Марозаў зьвярнуўся ў расейск. „паў-газэтэ“ „Наше Время“ з заклікам несьці праз яго рукі ахвяры для бедных. Хаця ёсьць у Вільні і расейскае Благотворительное О-во як і беларускае Дабрадзейнае Т-ва, якія пакліканы рабіць такія зборы арганізавана й пад грамадзкім кантролям, але, зразумела, нічога ня можна мець і проці прыватнага пачыну ў гэтай галіне хрысьціянскай чыннасьці. Толькі ў гэтай ролі да твары выступаць асобам, якія карыстаюцца бесспрэчным даверрам і пашанай з боку грамадзянства.

Можа аднак было-б лепш, калі-б а. П. Марозаў ахвяраваў сам бедным з сваіх асабістых сродкаў, якія яму, яя маючаму кут і ежу ў манастыры монаху, пэўне-ж — зусім непатрэбны. А што ў яго павінна нешта зьнайсьціся, аб гэтым было ў свой час вельмі чутна. Справа — у тым, што ў часы свайго „апостольства“ у вуніі ахрім. Марозаў меў у сваім распараджэньні значную моц усялякай вельмі цэннай царкойнай утвары (чашы, діскосы, крыжы і інш. рэчы залатыя і сярэбраныя), якую ён адбіраў у захапляных ім — на чале каталіцка-вуніяцкіх дзеячоў — Праваслаўных цэрквах. Ёсьць падставы цьвердзіць, што гэтыя рэчы іх beatus possidens прадаваў за добрыя грошы. Дык вось — замест таго, каб маральнай прынукай цягнуць з худой кішані бедных удавіцаў іх апошнюю „лепту“, было б зусім да твары „ахвярнаму“ манаху аддаць бедным хаця малую частку з таго, што „узята“ ім з праваслаўных цэркваў“.

## З жыцьця правінцыі.

*(сяло Залесьсе, Маладзечанскага павету).*

„У нашым сяле служыць дзякам у царкве гр. Брылеўскі. Служыць даўно — ад 1918 ці 1919 г. Здажыў нават адпаведны экзамен на дзяка.

Служыў пры многіх сьвяшчэньніках дый усе лічылі яго добрым дзякам. Нядаўна перавёўся да нас у царкву сьвяшчэньнік Касьценчык, дык і пры гэтым добрым наагул бацюшку гр. Брылеўскі таксама служыў і заўсёды лічыўся добрым дзякам. Але вось, як на грэх, прыехаў да бацюшкі з заграніцы яго брат, якому, як безработнаму, патрэбнай аказалася пасада... Дык сьвяшч. Касьценчык хоча цяпер звольніць Брылеўскага, нягледзячы на тое, што ў таго вялікая сям'я... Ведама-ж — свая кашуля — бліжэй да цела... Але — дзе-ж справядлівасьць, прыклад якой павінен даваць духоўны кіраўнік прыходу“...

Зьмяшчаючы гэтую корэспандэнцыю, маем надзею, што, калі сам паважаны а. Касьценчык спакусіцца „па-чалавецтву“ на неадпаведны крок, дык Вышэйшыя Ўлады не дазволяць пакрыўдзіць беднага чалавека і добрага службіта Царквы.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Я. Тураўскаму.** Ваш артыкул аб Горадзенскім брацтве будзе зьмешчаны, толькі пасьля спраўджэньня на мейсцы апісаных Вамі фактаў. Пішэце надалей.

Чытачу **К. Ц.** За свайго сына ня бойцеся. Сьвяшч. Коўш у Белар. Гімназію больш ня вернецца. Выкладаньне Закону Божага ў Гімназіі знаходзіцца ў добрых руках.

Рэдактар-выдавец: М. МАРКЕВІЧ. Друк. Вільня, Завальная 4-6.